# Бацькаўшчына

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойн[illegible] Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за пад[illegible]ойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 11 (546) — Нядзеля, 12 сакавіка 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Двулічная ігра Савецкага Саюзу

Прайшло яшчэ толькі паўтара месяца ад пераняцьця ўлады новым амэрыканскім прэзыдэнтам, а ўжо савецка-амэрыканскія дачыненьні, якія вызначаюць агульны ход палітыкі ў цэлым сьвеце, прайшлі цэлую эвалюцыю, багатую паасобнымі выпадкамі. Пры чым эвалюцыя гэтая не разьвівалася, як нармальна мусіла-б быць, у вадным кірунку, але рабіла ўзаемна супярэчныя скокі — раз у кірунку адпружаньня, іншы раз у кірунку завойстранага напружаньня, якое вылівалася ў форму запраўднай халоднай вайны. Такія зьмены адбываліся ў залежнасьці ад аднабокае ініцыятывы — Савецкага Саюзу. Паасобныя й найбольш вызначальныя фазы гэтай палітычнай ігры былі наступныя.

Спачатку прэзыдэнт Кэнэды ў сваей інаўгурацыйнай прамове 20-га студзеня выразна заявіў, што заўсёды гатоў шукаць шляхоў прымірэньня із Савецкім Саюзам, але толькі пад умовай, калі добрая воля будзе выяўленая з абодвых бакоў і калі далейшае фармаваньне амэрыканска-савецкіх дачыненьняў ня будзе йсьці ў разрэз з прынцыпамі захаваньня свабоды ў вольным сьвеце. Пра прынцыпы свабоды ў тым сьвеце, які ня ёсьць вольным, навет і прэзыдэнт Кэнэды не гаварыў канкрэтна нічога.

Першыя дні прэзыдэнцкага ўрадаваньня Кэнэды, асабліва ягоная інаўгурацыйная прамова былі ацэненыя Крамлём пазытыўна, што навет Саветы загаварылі аб павароце да савецка-амэрыканскай сялянкі часоў прэзыдэнта Рузвэльта. Гэтыя апошнія савецкія залёты да Амэрыкі ня выклікалі ў нас ніякага занепакаеньня. Мы іх расцэньвалі, як новую, гэтым разам найбольш можа прайзрыстую спробу абдурманіць Захад і вытаргаваць ад яго патрэбныя Савецкаму Саюзу ўступкі.

Што гэтыя салодкія савецкія заявы былі адно тактычным ходам, найлепш засьветчыла Дэклярацыя маскоўскай канфэрэнцыі камуністычных партыяў сьвету, якая гаварыла аб зусім адваротным. Яна ясна спрэцызавала сяньняшняе камуністычнае крэдо, што суіснаваньне з Захадам зьяўляецца ня прымірэньнем зь ім, але, наадварот, новай формай змаганьня з капіталізмам за хуткую перамогу камунізму ў цэлым сьвеце. Але ня гледзячы на гэтае і іншыя ваяўнічыя заявы Дэклярацыі маскоўскай канфэрэнцыі камуністычных партыяў, Крэмль і далей ня пераставаў какетаваць Амэрыкі.

Новую фазу ў савецка-амэрыканскіх дачыненьнях запачаткавала пытаньне Конга, пастаўленае ў палавіне лютага на парадку дня Рады Бясьпечнасьці ў сувязі із забойствам Люмумбы. Тут Савецкі Саюз раптоўна паказаў свае клыкі, калі, цынічна выкарыстоўваючы сьмерць Люмумбы, аднавіў сва[illegible]мпанію супраць Задзіночаных На[illegible]а высоўваючы сваю ультыматы[illegible] рэзалюцыю ў справе Конга, зр[illegible]алейшы крок у сваім наступе на [illegible] наймаладзейшую ў сьвеце дзяржа[illegible]януючы стварыць зь яе выгадную [illegible]ладовую базу дзеля сваей пэнэтрацы[illegible]а ўсім афрыканскім кантынэньце. Спроба гэтая атрымала й канкрэтную форму, бо Савецкі Саюз афіцыяльна вызнаў за «адзіна законны» кангалянскі пракамуністычны ўрад Гізэнгі й пачаў пасылаць яму аружжа для змаганьня із запраўды законным і вызнаваным заходнімі дзяржавамі кангалянскім урадам прэзыдэнта Касавубу.

На гэты савецкі крок прэзыдэнт Кэнэды зарэагаваў нядвузначнай пагрозай, што ў выпадку далейшага савецкага збройнага ўмешваньня ў справы Конга Амэрыка будзе інтэрвэньяваць збройна, а Рада Бясьпечнасьці, пры выдатным падтрыманьні афра-азіяцкіх дзяржаваў, ня толькі адхіліла савецкую рэзалюцыю ў справе Конга, але, наўсуперак гэтай рэзалюцыі, прызнала яшчэ большыя паўнамоцтвы ў справе Конга Задзіночаным Нацыям.

Значыцца, гэтым разам у пытаньні Конга і ў сваей акцыі супраць Задзіночаных Нацыяў Савецкі Саюз пацярпеў поўную паразу, аб чым мы шырэй пісалі ў нашым папярэднім артыкуле. Тым ня меней, пасьля штучна створанай сялянкі савецка-амэрыканскія дачыненьні ўвайшлі ў стадыю завойстранага напружаньня.

Тымчасам раптоўна ўзноў павеяў іншы вецер. Пасьля адзінаццацёхтыднёвага перарыву распачалася 7-га сакавіка наступная сэсія Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў. На парадку дня стаіць цэлы рад справаў першай важнасьці, якія беспасярэдна вяжацца з амэрыканска-савецкімі дачыненьнямі, а сярод іх на першы плян высоўваецца справа Конга.

Амэрыканскі прадстаўнік у Задзіночаных Нацыях Стывэнсон у першы дзень пленарнай сэсіі заявіў, што дзеля «палепшаньня міжнароднага клімату Амэрыка згаджаецца зьняць з парадку дня гэтай сэсіі рад пытаньняў, «якія не зьяўляюцца зьвязанымі зь беспасярэднімі заданьнямі ЗН», у тым ліку й справы цяперашняга палажэньня ў Вугоршчыне й Тыбэце. Савецкі Саюз із свайго боку асьветчыў, што ён ня будзе настойваць на абгаварэньні справы амэрыканскіх разьведвальных лётаў над тэрыторыяй Савецкага Саюзу.

Такім чынам працярэблены шлях да новай амэрыканска-савецкай сялянкі, толькі, нажаль, не аднолькавым коштам з абодвых бакоў. Справа амэрыканскіх разьведвальных лётаў над Савецкім Саюзам — гэта даўно ўжо адпетая песьня, вакол якой Саветы разыгралі вылучна прапагандовую кампанію супраць Амэрыкі й вакол якой і далей падыймаюць прапагандовы шум. Істотнага палітычнага значаньня гэтая справа ня мела й раней, калі была зусім актуальнай, а сяньня й пагатове ня мае. Затое пытаньне сяньняшняга палажэньня ў Вугоршчыне, дзе Саветы й далей праводзяць узможаную акцыю фізычнага й маральнага тэрору, а таксама й сытуацыя ў Тыбэце, дзе такую-ж акцыю праводзіць камуністычны Кітай, мае на сяньня першараднае палітычнае значаньне.

Няведама, як цяперашняя сэсія Генэральнай Асамблеі ЗН будзе фармаваць савецка-амэрыканскія дачыненьні. Найбліжэйшыя дні бяссумлеву прынясуць шмат чаго новага й цікавага. Але дасюлешняя савецка-амэрыканская йгра, якая, як бачым, разьвівалася з маланкавай шыбкасьцю, рэальныя карысьці прынесла толькі аднаму Савецкаму Саюзу й сьветаваму камунізму. Найлепшымі гэтага довадамі былі справа Ляёсу й справа Конга.

У вабедзьвюх гэтых краінах, у якіх дзеіць камуністычная пэнэтрацыя з мэтаю іхнага поўнага апанаваньня, Вашынгтон прапануе разьвязваць нутраныя палітычныя крызісы дарогай нэўтралізацыі гэтых краінаў, зусім забываючыся аб тым, што нэўтралізацыя краінаў, у якіх камуністыя вядуць дэструкцыйную акцыю, заўсёды прыводзіла да прадаўжэньня нутранага хаосу й дамашняе вайны ды канчалася перамогаю камуністых.

Ня гледзячы на тое, што Конго зусім ня было прыгатаванае да дзяржаўнае незалежнасьці й ягонае насельніцтва знаходзіцца яшчэ на прымітыўнай узроўні разьвіцьця, асноўная бальшыня кангалянскіх палітыкаў выказалася за празаходнюю арыентацыю й адкінула камуністычныя ўзоры будаваньня сваей дзяржаўнасьці. Толькі нязначная мяншыня, кіраваная дэмагогамі й авантурыстымі, як нядаўна замардаваны Люмумба або цяперашні ягоны намесьнік Гізэнга, праводзіць прасавецкую палітыку. Дык Амэрыка, замест абапёрціся вылучна на здаровыя празаходнія сілы, якія прадстаўляе прэзыдэнт Касавубу, урад прэм'ера Ілео ды прэм'ера Катангі Чомбэ, шукае разьвязкі ў нэўтралізацыі гэтых пазытыўных сілаў. Ня ў прыклад Амэрыцы Савецкі Саюз, вызнаўшы ўрад Гізэнгі й ня вызнаючы ўраду Ілео, абапёрся на сілы, якія хоць і падтрымліваныя мізэрнай мяншынёй, але паслухмяна падпарадкаваныя ягонай волі. Такім чынам, абапіраючыся на ўрад Гізэнгі, Саветы замацаваліся ў Конго, адкуль могуць выйсьці адно толькі пад націскам сілаў звонку. У гэтым і заключаецца бясспрэчнае савецкае дасягненьне ў Конго.

Зусім падобна прадстаўляецца сытуацыя і ў Ляёсе. Падтрымліваная Амэрыкай спроба кампрамісовага закančэньня змаганьня між нацыянальнымі сіламі ўраду й камуністычнай пэнэтрацыяй шляхам пасярэдніцтва нэўтральных суседніх краінаў Маляі, Бірмы й Камбоджы была адкінутая Савецкім Саюзам і камуністычным Кітаем. Затое Савецкі Саюз аднавіў пасыланьне аружжа для камуністычных бунтаўнікоў, бачучы ў іх зародак будучага камуністычнага ладу гэтае краіны. Дык і тут камуністыя асталіся ў выйгрышы.

Гэткі на сяньняшні дзень білянс у савецка-амэрыканскай ігры, ведзенай ужо пры новым амэрыканскім прэзыдэньце.

**Язэп Каранеўскі**

# Яшчэ ў справе «Голасу Амэрыкі»

Беларуская эміграцыя вядзе даўгое змаганьне, пачатае й кіраванае Радай БНР, за ўлучэньне беларускамоўных праграмаў у перадачы дзяржаўнае амэрыканскае радыястанцыі «Голас Амэрыкі». У Інфармацыйным Агенцтве Задзіночаных Штатаў (USIA) ляжаць ужо дзесяткі мэмарыялаў і лістоў ад самых розных беларускіх арганізацыяў з довадамі пра важнасьць беларускамоўных перадачаў у змаганьні з аблыжнай бальшавіцкай прапагандай на Беларусі. Хоць захады гэтыя не далі пакуль што пажаданых вынікаў, іх трэба рабіць і далей, бо здабыцьцё беларускіх перадачаў у «Голасе Амэрыкі» вартае кажнага высілку.

Апошні крок у гэтай справе — ліст Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) да новага прэзыдэнта ЗША Кенэды. Тэкст гэтага ліста, на просьбу рэспубліканскага сэнатара зь Нью-Ёрку сп. Кенэта Кітынга, зьмешчаны ў «Запісах» амэрыканскага Кангрэсу (Congressional Record) ад 6 лютага сёлета.

У лісьце гаворыцца пра інтэнсыўную камуністычную прапаганду на Беларусі; пра паняволеньне й падзел Беларусі савецка-расейскім імпэрыялізмам; пра тое, што Масква выкарыстоўвае голас Беларусі ў АЗН для прапагандавых нападак на Амэрыку; пра стратэгічна важнае палажэньне Беларусі ў савецкай імпэрыі; пра расейскую народагубную палітыку ў дачыненьні да Беларусаў ды пра кончую патрэбу маральнага падтрыманьня нашага народу, перасылаючы яму ў штадзённых беларускамоўных перадачах «Голасу Амэрыкі» «праўду, надзею й духовае падтрыманьне ў ягоным працяглым змаганьні за вызваленьне з ланцугоў чырвонага расейскага каляніялізму».

Бясспрэчна, што ліст БАЗА да Прэзыдэнта Кенэды — правільны й сваечасовы, хоць ён не пазбаўлены некаторых слабых мясьцін. Перш-наперш што да фактычнага боку: а) У лісьце сказана, што «Паводля свайго жыхарства, Беларуская ССР займае **трэйцяе** месца ў Савецкім Саюзе». Гэта ня так. Паводля свайго жыхарства, БССР займае **пятае** месца, маючы перад сабой, апрача РСФСР і Украіны, Казахстан і Узбэкістан (гл. вынікі савецкага перапісу жыхарства ў «Известиях» ад 10. V. 59). Калі гаварыць пра трэйцяе месца, дык трэба гаварыць не пра БССР, а пра **Беларусаў**, з афіцыйнае колькасьці якіх (7.913.000) больш за 20% жывуць вонках БССР. Такая памылка, бязумоўна, не катастрафальная, але яна можа стварыць ня зусім добрае ўражаньне ў амэрыканскага ўрадоўца, які прывык да дакладных дадзеных. Зрэшты, няведама, ці ўжо ў наступным мэмарыяле нейкае іншае беларускае арганізацыі супярэчнасьць гэтая ня выявіцца сама.

б) У іншым месцы таго-ж самага ліста БАЗА гаворыцца пра 4,7 мільёну чалавек страты натуральнага прыросту беларускага жыхарства паміж 1939-ым а 1959-ым годам. Лік гэты правільны. Аднак, падаючы прычыны гэтае страты, да «чырвоных расейскіх панявольнікаў» трэба дадаваць таксама й Другую сусьветную вайну зь гітлераўскай акупацыяй. Бо калі гэтага не дадамо мы, дык пра гэта падумае той, хто будзе чытаць ліст а які-небудзь прыслужлівы «прыяцель» падкажа пра гэта з камэнтаром пра тэндэнцыйнасьць «беларускіх сэпаратыстых». Тым больш трэба быць асьцярожным і дакладным у выпадках, калі падобныя рэчы публікуюцца, бо іх кажны тады можа выкарыстаць супраць нас-жа саміх. Гэта што да фактаў і стылю.

Тактычна, было-б, пэўна-ж, куды лепш, каб стараньні здабыць беларускамоўныя перадачы ў «Голасе Амэрыкі» рабіліся больш праз **дэмакратычных** кангрэсмэнаў — асабліва цяпер, калі Амэрыка мае прэзыдэнта-дэмакрата й дэмакратычную бальшыню ў вабедзьвюх палатах Кангрэсу. У амэрыканскім Кангрэсе кансэрватыўныя дэмакраты вельмі часта твораць кааліцыю з кансэрватыўнымі рэспубліканцамі супраць лібэралаў. Але таксама вельмі часта нейкая справа правальваецца вылучна таму, што яе прапагуе прадстаўнік палітычнае партыі, якая ня мае ні бальшыні ў Кангрэсе ні падтрыманьня з боку ўраду. Пра ўсё гэта павінен думаць кажны, на каго ўскладзеная адказнасьць выступаць ад імя арганізацыі.

**Я. Запруднік**

# Справа польска-нямецкае мяжы

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» 6 лютага паведаміла, што польскі варшаўскі ўрад выявіў гатовасьць наладзіць дыпляматычныя дачыненьні з Заходняй Нямеччынай, але пры ўмове, што бонскі ўрад прызнае пасьляваенныя тэрытарыяльныя здабыткі Польшчы. Становішча польскага ўраду было сфармуляванае ў афіцыйным партыйна-ўрадавым воргане «Трыбуна Люду». «Трыбуна Люду» зьмясьціла артыкул у вадказ на апошнія заходня-нямецкія спробы ўнармалізаваць дачыненьні з Польшчаю.

Назіральнікі адзначаюць, што становішча польскага ўраду, выказанае ў «Трыбуне Люду» — асьцярожны крокісьці насустрач спробам Бону прымірыцца з Варшавай.

Мірнае палагоджаньне гэтае праблемы было-б, магчыма, на карысьць і беларускай палітыцы, паколькі мірнае разьвязаньне гэтага тэрытарыяльнага канфлікту, у нейкай меры, павінна было-б зьменшыць польскі «Дранг нах Остэн» на беларускія землі, хоць, ведаючы старыя польскія «моцарствовыя» амбіцыі, цяжка прадбачыць, каб Палякі адмовіліся наагул ад сваіх захопніцкіх пасяганьняў на нашыя землі, пачынаючы ад Беласточчыны.

**А. Будзіч**

# Сёе-тое

Аддзел Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі ў Кліўлендзе, выдаўшы «Беларускі песенны зборнік» праф. М. Куліковіча, зрабіў вялікі ўклад у пашырэньне беларускае культуры ня толькі між нас эмігрантаў, але й між чужых народаў. У чужых агульных, музычных і унівэрсытэцкіх бібліятэках зьявіцца яшчэ адна пазыцыя, якая будзе знаёміць чужынцаў з часткай скарбніцы беларускай песеннай культуры.

Выданьне песеньніка ў нашых эміграцыйных умовах — рэч каштоўная, цяжкая й марудная. Вымагае ня толькі грашовай ахвярнасьці, але перадусім вытрываласьці й цярплівасьці ў працы. Сп-ру Ул. Дунцу й праф. М. Куліковічу ад беларускага грамадзтва належыцца вялікая падзяка.

Глянуўшы назад да часу, калі скончылася апошняя вайна й прасачыўшы культурную, асабліва-ж выдавецкую дзейнасьць нашае эміграцыі, можна прыгадаць дзясяткі, калі ня сотні, добрых выдавецкіх праектаў, што часта ўспыхівалі там-сям саламяным агнём. Ды на гэтым і канчалася. Калі былі матар'яльныя сродкі то не хапала якраз вытрываласьці й цярплівасьці у працы.

Ня так даўно даведаліся беларускія выгнаньнікі, што нарэшце пастаўлен быў праектаваны некалі помнік на магіле сьв. пам. кампазытара М. Равенскага. У сувязі з гэтым прыгадваецца й другі праект, да гэтага часу нязьдзейсьнены: група лювэнскіх беларускіх студэнтаў узяла была на сябе заданьне выдаць зборнік песьняў з нотамі сьв. пам. кампазытара М. Равенскага, каб, як казалася тады ў закліку для зьбіраньня ахвяраў, «наш Дарагі Кампазытар жыў між нас сваймі песьнямі».

Зьбіраліся ахвяры, нехта ўзяўся быў за складаньне песеньніка, ды пасьля ўсё неяк і заглохла. Сяньня ня чуваць аб гэтым ані шу-шу.

Ці ня час ведаць беларускаму грамадзтву што сталася з гэным добрым праектам? Якія пляны зрэалізаваньня праекту й ці што наагул робіцца ці будзе рабіцца?

*

Саракавыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну мінулі, а альманаху твораў беларускай літаратуры адносна Слуцкага Чыну так і няма. Тыя з нас, што куплялі спэцыяльна выданыя Згуртаваньнем Беларускае Моладзі Амэрыкі маркі для пакрыцьця коштаў выданьня альманаху, ужо пачынаюць нецярплівіцца. Ці не пара выясьніць?

Управа ЗБМА, слова за вамі!

*

Пасьпех людзям на сьмех — кажа беларуская народная прыказка. 1963 год будзе сотай гадавінай вялікіх трыумфаў і ахвяраў у гісторыі беларускага народу. Каб пасьля не сьпяшыцца надточываць недаробленае, залатываць дзіркі й г. д., трэба каб нашы арганізацыі ўжо цяпер плянавалі выкананьне самага хаця неабходнага.

Перш за ўсё на выдавецкім полі. «Бацькаўшчына» калісь у перадавіцы прыгадала, што неабходна было-б выдаць нейкую грунтоўную навуковую працу аб Кастусю Каліноўскім. Ад таго часу мінула шэсьць месяцаў, але нічога ня чуваць, каб хто штосьці ў гэтым кірунку рабіў, хоць гісторыкаў у нас хоць адбаўляй.

Калі ўжо запозна, напісаць штось паважнейшага, навуковага, дык хапае часу на працу папулярную, ды й то ня толькі ў беларускай, але перадусім у ангельскай мове.

*

Няма сумлеву, што ўсе асяродкі вольнай беларускай эміграцыі па цэлым сьвеце будуць належна адзначаць сотую гадавіну беларускага паўстаньня проці Маскалёў пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Найбольш прапагандова-палітычны капітал на гэтым могуць і павінны зрабіць нашыя асяродкі ў Паўночнай Амэрыцы.

Наступная сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі прыпадае на 1962 год. Здавалася-б, што трэба было-б зрабіць спэцыяльную агульную сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі для ўшанаваньня памяці Паўстаньня й Вялікага Гэроя.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Небясьпечныя «пабожныя пажаданьні»

На ўступе даем голас палітычным і дзяржаўным мужом. Добра гэта, ці не, але да іхніх выказваньняў хоцькі-няхоцькі трэба прыслухоўвацца.

«Мы ня маем сумлеваў, што калі мы перамаглі каляніялізм, усё-ж могуць знайсьціся іншыя сілы, якія паставяць пад загрозу свабоду, за якую мы змагаліся. Таму мы не зьмяншаем нашай пільнасьці і вельмі-ж уважна сочым за гэтымі сіламі, а перш за ўсё — за камунізмам...»

Гэта словы Тома Мбоя, які нанднях атрымаў перамогу падчас выбараў у Кэніі.

Тут нехта мог-бы сказаць, што аўтар гэтага артыкулу павінен стукаць кулаком у грудзі і сказаць: «мая віна», бо ня вельмі даўно гэты-ж самы аўтар цьвердзіў, што Афрыка — гэта салома і што камуністычны агонь дабіраецца і да саломы. Усё-ж «адна ластаўка ня робіць вясны» і ўсё-ж «салома» застаецца яшчэ, нажаль, актуальнай. Але словы Тома Мбоя прыемна зацытаваць...

«...Мяркуючы з паводзінаў пана Хрушчова, Савецкі Саюз глядзіць на «суіснаваньне» як на магчымасьць ствараць яму спрыяльныя ўмовы для перамогі камунізму. Таму мы павінны быць гатовымі да доўгага змаганьня — маючы на ўвазе змаганьне мірнымі сяродкамі, шляхам перамоваў. Але, калі мы хочам, каб з намі гаварылі, мы ня можам быць безбароннымі...»

Гэта нядаўна сказаў ангельскі прэм'ер Макмілян. Трэба прызнаць, што словы разумныя і толькі пажадаць, каб яны былі зьдзейсьненыя.

Усё-ж такі, ў Савецкім Саюзе грамадзкую апінію (калі гэта так можна назваць) робяць партыйныя верхаводы і пакорны ім прапагандовы апарат, на Захадзе гэта робіцца ня так. Тут можна было-б сказаць: «І дзякуй Богу!» — Аднак...

Возьмем для прыкладу Ангельшчыну. Мы зацытавалі разумны сказ ангельскага прэм'ера. Але Макмілян — гэта ня Хрушчоў, і ня можа загадаць народу думаць так, як ён хоча, або прынамся галасаваць паводля ягонага загаду. На гэтак званую грамадзкую апінію ў Ангельшчыне маюць уплыў і іншыя дзейнікі, або людзі.

Вось, прыкладам Бэртран Расэль. — Ён — ведамы філязоф, пісьменьнік, навуковец, грамадзкі дзеяч, чалавек, які пераваліў 80 гадоў. Ён выдумаў — на ягоную думку — гэніяльную тэорыю: Ангельшчына мусіць камплетна раззброіцца. Ангелец не павінен мець навет ножыка ў кішані. Тады Хрушчоў ня будзе мець ніякага маральнага права нападаць на Ангельшчыну. А, калі-б ён гэта зрабіў, дык значыцца Хрушчоў — бандыт.

Гэта прыгадвае зусім аўтэнтычную гісторыю з 1940-41-га гадоў, калі ў Ангельцаў пыталіся, што вы зробеце, як Гітлер апануе Ангельшчыну? Ангельцы прастадушна і наіўна адказвалі: «А мы замкнем усе крамы і нічога Немцам не прададзём». Гэта не анэкдот.

Пэўна-ж, Бэтранда Расэля чытае ня кажны Ангелец — гэта занадта скамплікаваная філязофія, а Ангелец ня любіць камплікаваць сабе жыцьця. Усё-ж тэорыю Расэля перахапілі і папулярызуюць іншыя, а найбольш тыя, якім гэта вельмі-ж выгадна. І гэтыя ўдоты дзяўбуць у галаву простаму Ангельцу: «Для нас толькі адзін ратунак: камплетна раззброіцца і тады нам ня будзе нішто пагражаць».

Тут варта падаць, можа крыху вульгарны прыклад: Каровы не ядуць мяса, але гэтае вэгэтарыянства ня выратавала ніводнай каровы ад таго, што яе завялі ў бойню і ейнае мяса зьелі іншыя жывёлы...

Але пакінем старэнькага Расэля ў супакоі. Ня будзем таксама доўга затрымоўвацца пры маршале і вісконце Монтгомэры, які добра ваяваў, але на старасьць захацеў зрабіцца вялікім палітыкам і сваімі палітычнымі падарожжамі ды выступленьнямі спрычыняе вялікія клопаты ангельскаму ўраду.

А вось нестары, здольны, амбітны і ўплывовы журналісты Эдуард Крэнкшоў. Ён мае амбіцыі быць экспэртам далёкаўсходніх справаў. Цяпер яму прыпала да густу тэма: савецка-кітайскі канфлікт. У сваіх даўжэйшых артыкулах ён аналізуе гэтую тэму.

Шашлык — вельмі смачная страва, але залежыць, як яе пададуць. І вось-жа містэр Крэнкшоў, здаецца, не так, як трэба, прыпраўляе гэты савецка-кітайскі шашлык. Крэнкшоў пераконвае сваіх чытачоў, што ягоныя матэрыялы — не які небудзь «сэкэнд гэнд», але зь першай рукі. Можам яму паверыць. Але прыправа да гэтага насоўвае пэўныя засьцярогі. Крэнкшоў, праўда, вельмі асьцярожна, сугэруе думку, што на гэтым савецка-кітайскім канфлікце можна выйграць змаганьне двух блёкаў. Крэнкшоў выказвае г. зв. wishfull things або па нашаму, набожнае пажаданьне. Ніхто іншы, як выдатны ангельскі дзяржаўны муж выказаў тэорыю, што гандляваць можна навет зь людаедамі. Вось-жа і Ангельцы мараць аб шырокім гандлі зь Кітаем, аб прыняцьці Кітаю ў ЗН і тады, на іхнюю думку, ўсе цяжкасьці будуць зьліквідаваныя. Мао Тсэ Тунг перагрызе горла Хрушчову, або наадварот, і камуністычная загроза ня будзе больш існаваць. Аднак набожныя пажаданьні — гэта адно, а рэчаіснасьць — зусім іншае.

Ідэялягічны канфлікт паміж Савецкім Саюзам і Камуністычным Кітаем існуе ўжо даўно. Але было-б наіўным ускладаць усе надзеі на гэты канфлікт. Трэба перадусім усьведаміць, што Хрушчова і Мао шмат што дзеліць, але і аб'ядноўвае. А аб'ядноўвае іх дзікая ненавісьць да Захаду, да вольнага сьвету.

Камунізм — гэта ня толькі дактрына ці ідэялёгія. Гэта ў пэўным сэньсе рэлігія, якой камуністычныя верхаводы хочуць замяніць праўдзівую рэлігію, якую яны нішчылі і зьнішчаюць. Прыгадаем дагмат аб непамыльнасьці Папы Рымскага. У гэты дагмат кажны каталік мусіць верыць. Камуністычныя верхаводы таксама вымагаюць ад падпарадкаваных ім народаў і людзей, каб яны верылі ў іхнюю непамыльнасьць. І праўда, цяпер у камуністычным блёку паўсталі гэрэзіі, бо выявіліся тры дагматы, тры абсалютныя праўды: ў Маскве, Пэкіне й Белградзе. Канфлікт пэўна-ж глыбокі і ў г. зв. «маналіце» зарысаваліся трэшчыны. Таму не здарма ад 9-га да 30-га лістапада ў Маскве трывала ідэялягічная дыспута, аб якой не падавалася ніякіх інфармацыяў. Заданьнем гэтага камуністычнага «сабору» было знайсьці магчымасьці хаця-б правізарычна замазаць гэтыя трэшчыны. Заданьне было нялёгкае і таму сакрэтны «сабор» трываў тры тыдні. Вынікам гэтага была рэзалюцыя, або, лепш, дэклярацыя, якая падобна складаецца з 20-ці тысяч словаў (хто мае цярплівасьць — хай пераліча). Гэтая дэклярацыя, якую камуністычная прапаганда лічыць верхавінай мудрасьці — клясычны прыклад бальшавіцкага пустаслоўя і абсалютна нічога не гаворыць, літаральна не дае ніякага адказу на пякучыя праблемы нашых часоў. Там, калі можна сказаць словамі Пурышкевіча- «смешались в кучу кони, ...и с красным знаменем вперед обалделый прет народ...» У гэтым канглямэраце пустых словаў і крыклівых сказаў, а вельмі часта і супярэчлівых цьверджаньняў адлюстроўваецца глыбіня канфлікту г. зв. камуністычнага блёку.

Аднак камуністычныя верхаводы не настолькі звар'яцелі, каб падстаўляць галовы пад тапор. Яны ня могуць дазволіць сабе на роскаш змаганьня паміж сабой, пакуль існуе вольны сьвет. Праўда гэты сьвет змарнаваў дзесяткі нагодаў зьнішчыць камунізм, але хіба-ж на сваіх паразах і нечага навучыўся ды нейкую нагоду выкарыстае...

Таму такія — і падчас наіўныя — спэкуляваньні на нутрыкамуністычных канфліктах, гэтыя «пабожныя пажаданьні» розных «экспэртаў» могуць спрычыніць вялікія шкоды ў змаганьні паміж двума сьветамі — вольным і камуністычным. А гэтае змаганьне на сьмерць і жыцьцё трывае.

Хрушчоў ня мае ніякіх талентаў быць ідэялёгам, або духоўным правадыром. Ягоная стыхія гэта — кукуруза, кароўнікі і сьвінарнікі. Пэўна-ж, як яму здараецца нагода напалохаць далікатнага джэнтэльмэна чаравікам — ён гэтую нагоду ўдала выкарыстае. Але Хрушчоў — чалавек практычны і таму, можна думаць, што яго няраз палохае загроза кітайскай экспансіі, пошукі лебэнсраўму, якія могуць выліцца ў Сібір. Усё-ж, пакуль існуе вольны сьвет, і Хрушчоў і Мао будуць намагацца ўсякімі магчымымі сяродкамі замазваць трэшчыны ў «камуністычным маналіце».

Дык і спэкуляцыі ангельскіх публіцыстых у гэтым выпадку можна ўважаць небясьпечнымі. Больш таго, ня толькі Ангельцы, але нядаўна і паважная газэта «Ле Монд» вельмі-ж пацяшала сваіх чытачоў радаснай пэрспэктывай «савецка-кітайскіх разыходжаньняў».

З прыгаданай маскоўскай дэклярацыі выразна бачна, што камуністычныя верхаводы, як на манну зь неба, чакаюць на крызыс амэрыканскай эканамічнай сыстэмы. З свайго боку, заходнія аптымістыя таксама, як на манну, чакаюць на канфлікт паміж Мікітам і Мао.

Абодва бакі могуць не дачакацца. А праблемы нарастаюць. Іх трэба вырашаць.

Будзем нясьмелымі аптымістымі, бо ўсё-ж бачым зрухі у добрым напрамку сярод шмат людзей, якія могуць уплываць на падзеі. Таму мы на пачатку і зацытавалі выказваньні палітыкаў і дзяржаўных мужоў...

пс

# З нагоды сотых угодкаў ліквідацыі паншчыны

3-га сакавіка прыпадалі сотыя ўгодкі скасаваньня паншчыны ў былой Расейскай царскай імпэрыі. Рэакцыйнасьць кіруючых колаў царскай Расеі усім добра ведамая. І ўсё-ж пад узьдзеяньнем ідэяў гуманізму й ціскам незадаволеных народных масаў рэакцыйны царскі ўрад быў змушаны адступіць і ў 1861 годзе цар Аляксандр Другі абвесьціў у сваім маніфэсьце аб скасаваньні паншчыны на вечныя часы».

Ад таго году аж да пачатку прымусовай калектывізацыі 1929-30 гадоў сяляне былі свабодныя ад прыгоннага права. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі запачаткавала новае прыгоннае права, новую залежнасьць сялян, гэтым разам ужо не ад асобных земляўласьнікаў, а ад ня менш жорсткай таталітарнай камуністычнай дзяржавы.

Ідучы да ўлады камуністыя абяцалі сялянам зямлю і поўную свабоду. Аднак, моцна захапіўшы ўладу ў свае рукі, яны выявіліся менш лібэральнымі за сваіх царскіх папярэднікаў. Паншчыну, для ўмацаваньня якой царскай уладзе спатрэбіліся стагодзьдзі — бальшавіцкая ўлада аднавіла ў крыху зьмененай форме ужо пасьля 10 год свайго панаваньня. Калі рэакцыйнае царскае самаўладзтва было, урэшце-рэштаў, прымушанае скасаваць прыгоннае права, — бальшавіцкая дыктатура свой дзяржаўны прыгон намагаецца ўсё больш умацоўваць. У гэтым палягае ўся трагічнасьць і асноўная розьніца палажэньня сялянства ў былым прыгоне і ў сучасным калгасна-саўгасным ярме.

Шмат гора давялося перанесьці на сваіх плячах нашаму беларускаму сялянству. І гэтаму гору яшчэ ня відаць канца. Правы, якімі карыстаўся беларускі селянін у сваёй дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім — былі паступова зьнішчаныя пасьля заваёвы нашых земляў Маскоўшчынай. У параўнаньні зь іншымі раёнамі Расейскай імпэрыі прыгоннае права расейскіх цароў, дапоўненае бязьлітасным нацыянальным прыгнётам, найцяжэй адчувалася якраз на Беларусі. Ня выпадкова, што якраз беларускае сялянства пад кіраўніцтвам нашага нацыянальнага гэроя Кастуся Каліноўскага ўзьнялося на масавае паўстаньне ў 1863—64 гадох, каб канчаткова вызваліцца з чужацкае няволі й адваяваць сабе зямлю й свабоду. Паўстаньне было жорстка здушанае маскоўскімі арміямі, але нікому не ўдалося здушыць імкненьня беларускага селяніна да свае ўласнае зямлі, свае гаспадаркі.

Вялікі знаўца душы беларускага народу, асабліва душы беларускага селяніна, паэта Якуб Колас у сваёй паэме «Новая Зямля» вуснамі свайго гэроя Міхала сьпяваў такі ўзьнёслы гімн спрадвечнаму імкненьню беларускага селяніна да свае ўласнае зямлі:

А дзе-ж той выхад? дзе збавеньне  
Зь няволі цяжкай, з паланеньня?  
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,  
Свой пэўны кут, свая ральля:  
То — наймацнейшая аснова  
І жыцьця першая умова.  
Зямля ня зьменіць і ня зрадзіць,  
Зямля паможа і дарадзіць,  
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,  
Зямля паслужыць да магілы,  
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,  
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

Міхал у часе вандраваньня  
На адзіноце сам з сабою,  
З гарачым сэрцам і душою  
Разьвязваў важнае пытаньне  
Аб той зямельцы аб уласнай.  
Яна сьвяціла зоркай яснай,  
Яна гарнула і хіліла,  
Вы нейкіх чар нязнаных сіла.  
Свая зямля ,свая пасада!  
Ці ёсьць мацнейшая прынада?

Новыя панявольнікі зламалі пазьней Коласа, змусілі пісаць пад іхную дыктоўку. Але не зламалі беларускага селяніна. Загнаны ў новы бальшавіцкі прыгон ён — галодны й абдзёрты — мужна перанёс і масавыя арышты, і дэпартацыі, і расстрэлы, — і да сяньняшняга дня ня хоча працаваць батраком на казённай паншчыне. Руіна скалектывізаванай сельскай гаспадаркі БССР — найлепшы доказ гэтага.

Савецкая гістарычная літаратура цьвердзіць, што царскі ўрад быў прымушаны правесьці рэформу 1861 году таму, што прыгон не адпавядаў хуткаму росту прамысловасьці Расейскай імпэрыі. Ці не пара была-б і камуністычным кіраўнікам зразумець, што калгасная сыстэма таксама не адпавядае патрэбам народаў Савецкага Саюзу ў сельскагаспадарчых прадуктах. Ці ня прыйшла пара для савецкага партыйнага кіраўніцтва перад абліччам хранічных няўдачаў іхнай калгаснай сыстэмы правесьці рэформу падобную, да рэформы 1861 году — вызваліць сялян ад калгаснай паншчыны і аднавіць свабодную працу сялян на іхнай уласнай зямлі, як гэта часткова і вельмі ўдала праведзена ўжо ў суседняй з намі Польшчы.

Р.С.

# Творы Алеся Гаруна

**(Працяг)**

### ДВА КАХАНЬНІ

У вадняэй Марылі, маладой дзяўчыны,  
Быў каханак Яська, агнявы хлапчына.  
Што ні вечар прыйдзе, што ні ночка стане,  
А ў іх у садочку аб адным шаптаньне:  
«Да душы, — Марыля свайму Яську кажа, —  
Хіба сьмерць бяз часу нас з табой разьвяжа».  
— «Не кажы няпраўды, — малайчына вучыць, —  
Нас ні Бог, ні людзі і ні сьмерць разлучыць».  
І сядзяць і шэпчуць да зары-сьвітаньня!  
Былі вішні ў садзе сьветкі мілаваньня...  
А настаў дзянёчак — да Марылі ў сваты  
Прыляцеў панічык, шляхцючок багаты;  
І дзявочча сэрца — ах, слабое, знана! —  
Перайшло ад Яся да другога пана.  
Хіба-ж Ясь заплакаў? — Не з таго дзясятку!  
Пакахаў другую, пакахаў Агатку.  
І цяпер, як цемязь западзе над вёскай,  
Ён сядзіць з Агаткай пад старой бярозкай;  
Пралятаюць зрокі неўсьцярэжна хутка,  
І ўся ноч здаецца, як адна мінютка.

А жыла-ж Антоля, — мусіць, мела долю,  
Ды згубіла долю у шырокім полю.  
Мела двух прыгожых, мела двух каханкаў,  
І адзін быў Янка, і другі быў Янка.  
(Дзьве душы народны ў вадным целе жылі,  
І дзяўчыну кажны паасоб любілі).  
Адзін з шчырым сэрцам, а другі зь няверным,  
Надарылі дзеўку жалем непамерным.  
Як адзін цалуе, ненагляду песьціць,  
Дык другі мяркуе, як-бы абяшчэсьціць.  
Як адзін у садочку зь любай пахаджае,  
Дык другі упрочкі ў думцы ад'яжджае.  
Як адзін бажыўся, абяцаў жаніцца,  
Дык другі у лыжцы зычыў утапіцца.  
І ў канцы ся стала, чаму было стаці:  
Прычытала маці над дачкой у хаце:  
«Ах, мая дачушка! А мая-ж рыбулька,  
А мая-ж ты птушка, а мая-ж зязюлька!  
А чаму-ж ты, доню, губкі зашчаміла?  
А чаму-ж ты, дзеткі, вочанькі закрыла?  
А чаму, дачухна, міла ня ўсьміхнешся?  
А чаму, красухна, мне не адгукнешся?  
Што-ж табе ня добра, што-ж было ня міла?  
Ці-ж тваю галоўку не сама я мыла?  
Ці-ж тваю сарочку не сама я ткала?  
Ці-ж тваёе сьмерткі я, скажы, чакала?»...  
Так было з Антоляй, што ня мела долі,  
Ці згубіла долю ў каласістым полі.  
Як-жа тыя злыдні? Хоць адзін шкадуе?  
Э! адзін часамі, а другі ганьбуе.  
Як былі-ж абодва у вадзіным целе,  
Дык жаніўся Янка і згуляў вясельле.

### ЖАБРАЧКА

Дайце кавалачак хлеба ёй цьмянага,  
Дайце пуховага, — дзе-ж ёй узяць?  
Што яна возьме з жыцьця бесталаннага?  
Дайце, што можаце даць!

Гора памела на сьвеце убогая!  
Гляньце: згрыбела, згарбела у крук.  
Доля далася занадта ўжо строгая, —  
Выбіла шчасьце ўсё з рук.

Была дзяўчынаю, была красуняю,  
Была вагонь, — не глядзі, дзяцюкі!  
Зглянеш — і сэрца праймецца, як куляю;  
Мелі пацеху бацькі.

Час надыйшоў, і была гаспадыняю,  
Быў гаспадар багатыр на сяле,  
Была над мужам царыцай, княгіняю, —  
Бог калі шчасьце пашле!

Была і маткаю, была шчасьліваю,  
Двох аднагодкаў Вялікі ёй даў:  
Сына малойца, дачку урадлівую, —  
Скуль-дзе і сват пад'яжджаў.

Мела Нупрэіха, мела бяздольная!  
Дзе-ж гэта дзелася, я[illegible] уплыло?  
Што-ж, сіроцінка, б[illegible]а ты польная,  
Што падкасіла было?

— «Ой, мае дзетачкі, [illegible]не грэшную  
Пэўна за бацькаўскі г[illegible] пакараў.  
Крыўду ўчыніў да скон[illegible]ку  
[illegible] няўцешную, —  
Чым надарыў, адабраў.

Неяк асеньняй парою апоўначы  
Хатку няведама хто падпаліў.  
Я прахапілася, скрыкнула помачы:  
— Людзі! ратуйце, хто жыў!

З крыку майго і сямейка збудзілася,  
Ледзьве пасьпелі на двор уцячы.  
Доня за рукі мае учапілася,  
Просіць: «Матуля, маўчы!»

Мужа я ў гэтым пажары пазбылася:  
Кінуўся ў хату па скарб — ратаваць,  
Столь падгарэла ў той час, абвалілася...  
Бог захацеў пакараць!

# Пра культурную палітыку Масквы

(Працяг 5-ы)

### 3. У галіне гістарыяграфіі

Важнай дзялянкай русыфікатарскай палітыкі Масквы зьяўляецца таксама гістарыяграфія нерасейскіх народаў СССР. Як ведама, гістарыяграфія заўсёды адыйграве вялікую ролю ў нацыянальным узгадаваньні народаў, зьяўляючыся свайго роду калыскай іх нацыянальнай сьведамасьці. Бязумоўна, гэта разумее Масква, а таму яна імкнецца ўсякімі шляхамі зьнішчыць гэтую гістарыяграфію, зьліквідаваць гістарычнае мінулае нерасейскіх народаў.

Гістарыяграфічная палітыка Масквы апошняга часу найлепш схарактарызаваная ў апублікаваным у часапісе «Вопросы истории» (№ 7, 1960) паведамленьні «Стан і некаторыя асноўныя заданьні савецкай гістарычнай навукі ў Таджыкскай ССР» таджыкскага гісторыка Э. Раджабава. Падзякаваўшы Маскве й партыі за «падтрымку» разьвіцьця гістарычнай навукі ў Таджыкістане, Э. Раджабаў папярэджваў: «Праз усе працы (гістарычныя — П. З.) чырвонай ніткай павінна праходзіць ідэя дружбы народаў СССР. **Наш абавязак — раскрыць вялікую вызвольную місыю расейскага народу адносна другіх народаў Радзімы».** Тое самае падцьвердзіў у сваім паведамленьні-рапарце «Некаторыя рэзультаты працы й заданьні Інстытуту гісторыі АН БССР» («Вопросы истории», № 7, 1960) і дырэктар гэтага інстытуту І. Краўчанка, зазначыўшы, што бэсэсэраўская гістарычная літаратура адлюстроўвае й павінна адлюстроўваць «неразрыўную сувязь гісторыі беларускага народу зь гісторыяй вялікага расейскага народу».

Мы мелі ўжо нагоду пазнаёміцца з вытрымкамі ў нацыянальным пытаньні пастановы ЦК КПСС з 9 студзеня 1960 году — «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах». Там было сказана, што трэба праводзіць рашучае змаганьне з праявамі «буржуазнага нацыяналізму», з «тэндэнцыямі да ідэялізацыі сацыяльных супярэчнасьцяў мінулага», «да выкрыўленьня запраўднай гісторыі той ці іншай нацыі й ейных суадносінаў зь іншымі народамі СССР», супраць «паасобных праяваў нацыянальнай замкнутасьці й абмежаванасьці». Як супрацьлегласьць, у пастанове падкрэсьлівалася, што неабходна зьвяртаць усю ўвагу на «інтэрнацыянальнае ўзгадаваньне», на «ўмацаваньне дружбы народаў», на «ўзгадаваньне ў духу савецкага патрыятызму й нацыянальнай гордасьці», на «нязьбежнае збліжэньне й усебаковае ўзбагачэньне сацыялістычных нацыяў», на «ўзгадаваньне на баявых традыцыях мінулага й героіцы сучаснага», ў «духу нянавісьці да буржуазнай ідэялёгіі касмапалітызму».

Што ўсё гэта азначае? З шматгадовай савецкай практыкі падцьвярджаецца, што гэтыя «тэндэнцыі да ідэялізацыі сацыяльных супярэчнасьцяў мінулага й выкрыўленьня запраўднай гісторыі» чамусьці існуюць толькі сярод нерасейскіх гісторыкаў. Яны азначаюць спробы аб'ектыўнага насьвятленьня гісторыі таго ці іншага народу з падкрэсьленьнем апрычонасьці і станоўчага супраціву расейскай каляніялізацыі й панаваньню. Гэта-ж адначасна й «праявы буржуазнага нацыяналізму й нацыянальнай абмежаванасьці». У той час гістарыяграфія пра Расею й расейскі народ можа славіць і царскія рэформы (напрыклад Івана Грознага, Пётры першага), і царскіх палкаводцаў, і царкоўных «собирателей всея Руси», і царскую каляніялізацыю й заваёвы. Тут няма ні «сацыяльных супярэчнасьцяў», ні «выкрыўленьняў гісторыі», ні небясьпекі для нацыянальнае абразы іншых народаў. Значыцца, гэтыя вытычныя партыйныя пастановы адносяцца толькі да нерасейскіх народаў, што, між іншым, сьветчыць гэты пастулят рашучага змаганьня з праявамі «буржуазнага нацыяналізму». З другога боку, пастанова ЦК КПСС падкрэсьлівае неабходнасьць выхаваньня нерасейскіх народаў на традыцыях і гісторыі расейскага народу, на расейскім патрыятызьме, неабходнасьць ліквідацыі іх нацыянальнай апрычонасьці й зьліцьця ў агульным расейскім катле. Ня можна адначасна й зьнішчаць гістарычнае мінулае, і узгадоўваць народы ў «духу нацыянальнай гордасьці». Пазбаўленыя сваёй гісторыі нерасейскія народы павінны ўзгадоўвацца на патрыятызьме й нацыянальнай гордасьці расейскага народу, пра што сьветчыць і пастулят змаганьня з «буржуазнай ідэялёгіяй касмапалітызму», гэты сынонім запраўднага інтэрнацыяналізму.

Што гэта пайменна так, а ня іначай, нам дазваляюць канстатаваць вынікі партыйных зьездаў, якія прайшлі на пачатку 1960 году ўва ўсіх нацыянальных рэспубліках. Гэтыя зьезды былі асаблівыя ў тым сэньсе, што яны, як ніколі дасюль, паставілі пытаньне ліквідацыі нацыянальнай апрычонасьці нерасейскіх народаў, у тым ліку й іх гістарычнага мінулага. Няма сумніву, што гэта сталася пад узьдзеяненьнем пастановы ЦК КПСС зь 9 студзеня.

Напрыклад, на XV зьезьдзе кампартыі Ўзьбэкістану ўспомненае «інтэрнацыянальнае ўзгадаваньне» падсавецкіх народаў выключна было зьведзена да выкараненьня найменшых праяваў нацыянальнага жыцьця ў асяродзьдзі нерасейскіх народаў, і ў першую чаргу сярэдняазіяцкіх, ды прышчапленьня ім выідэлізаванай расейшчыны. Рэзалюцыя гэтага зьезду так і запісала, што «неабходна праводзіць няпрымірымае змаганьне супраць праяваў буржуазнай ідэялёгіі, нацыянальнай абмежаванасьці, узносіць перамогу ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі». Што-ж да расейшчыны й расейскага народу, дык пра гэта сьветчыць «холопское послание царю всея России» гэтага зьезду ці ягонае пасланьне Хрушчову, у якім зазначалася: «...узьбецкі народ заўсёды будзе ўдзячны вялікаму расейскаму народу за ўсебаковую бескарысьлівую дапамогу ў будаўніцтве новага жыцьця». А як-жа? Пасланьне працягвала: «сваім самаахвярным гераізмам, сьветлым розумам і шчодрым сэрцам, сваей імклівасьцяй наперад да камунізму расейскі народ — наш старэйшы брат — здабыў усеагульную любасьць і глыбокую пашану ўсіх брацкіх народаў СССР».

Ці гэта ня прымусовая прысяга пакорлівасьці каляніяльных нявольнікаў? Ці гэта ня гістарычная паралель з часоў разгулу царскага імпэрыялізму? У пытаньнях гістарычнага мінулага нерасейскіх народаў і іхнай гістарыяграфіі яшчэ больш цікавейшым зьяўляецца асьведчаньне першага сакратара кампартыі Ўзьбекістану Ш. Рашыдава, зробленае ў канцы 1959 году на 2-ім зьезьдзе інтэлігэнцыі гэтай рэспублікі. Зьвяртаючыся да гэтай інтэлігэнцыі, і асабліва да сярэдняазіяцкіх гісторыкаў, ён пайменна папярэджваў, што апошнім няма чаго зьвяртацца да гісторыі сваіх народаў, вышукоўваць у ёй нацыянальных асаблівасьцяў і нацыянальнае апрычонасьці. Галоўная праблема й заданьне сярэдняазіяцкіх гісторыкаў — гэта абасаваць «прагрэсыўнасьць» прылучэньня Сярэдняй Азіі да Расеі, г. зн. апраўдаць і выідэлізаваць каляніяльную палітыку Расеі ў Сярэдняй Азіі. З другога боку, яны павінны «напісаць спэцыяльныя навуковыя працы пра вялікі расейскі народ, ягоны інтэрнацыяналізм, пра ягоных перадавых прадстаўнікоў, якія распаўсюджвалі прагрэсыўную дэмакратычную расейскую культуру, рэвалюцыйны марксістоўска-ленінскі сьветапагляд» і г. д.

У падобным духу закраналася нацыянальнае пытаньне, гістарычнае мінулае й на партыйных зьездах іншых нацыянальных рэспублікаў. Як бачым, праблема ўзгадаваньня падсавецкіх народаў «у духу інтэрнацыяналізму», праблема выкоўваньня «адзінай сацыялістычнай нацыі» зводзіцца Масквой зноў-жа да тых царскіх і сталінскіх мэтадаў: паліцэйскае выкараненьне нацыянальнае сьведамасьці ў нерасейскіх народаў і гвалтоўнае прышчапленьне ім расейшчыны. Прытым актуальныя мэтады Масквы шмат чым розьняцца ў горшы бок ад былых мэтадаў расейскага царызму. Тады дзейнічала звычайная брутальная сіла каляніізатараў. Цяпер гэтая сіла ўзбагацілася сваей адменнай ідэялёгіяй і місыянізмам — расейскі народ і Расея выбраны гісторыяй панаваць над другімі народамі, прышчапляць ім сваю культуру, сілай накідаць сваю гісторыю. «Перадавы» расейскі народ, «перадавыя прадстаўнікі перадавой расейскай культуры» — як гэта выглядае хваравіта й прымітыўна ў нашую эпоху ўсебаковага высокага разьвіцьця чалавека, у эпоху росквіту палітычнага гуманізму!

(Працяг будзе)

П. Залужны

# Пачатак кар'еры Канстантына Паклонскага

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

18 студзеня 1654 году ў Пераяслаўлі Хмяльніцкі паддаўся пад пратэктарат Масквы.

15 мая маскоўскія арміі рушылі ў паход на Вялікае Княства Літоўскае.

16 мая Хмяльніцкі даў прыказ нежынскаму палкоўніку Івану Залатарэнку выступіць у паход на помач маскоўскаму войску. Залатарэнка аднак у паход на Літву выступіў толькі 11 чэрвеня.

5 чэрвеня, г. зн. у часе, калі Залатарэнка ўсё яшчэ сядзеў у сваім Нежыне, да яго й зьявіўся Канстантын Паклонскі. Аб гэтым мы даведваемся зь ліста Цімошкі Спасіцелева цару Аляксею Міхайлавічу:

«В нынешнем, государь, во 1654 году, июня в 5 день, переехал на твое государево царево и великого князя Алексея Михайловича, всея Руси, имя из Литовския земли, из города Могилева, шляхтич Костянтин Поклонской, а с ним 14 человек».

Як з гэтага бачым, К. Паклонскі сустрэўся з Залатарэнкам не ў часе ваеннай завірухі «тут недзе пад Магілёвам», але ў Залатарэнкавым Нежыне, і, як з гэтага ліста далей даведваемся, Залатарэнка паслаў Паклонскага не да цара, але да Хмяльніцкага на Украіну.

У гэтмана Багдана Хмяльніцкага К. Паклонскі быў пару тыдняў. 22 чэрвеня Хмяльніцкі даў Паклонскаму рэкамэндацыйны ліст да цара Аляксея Міхайлавіча. 4 ліпня Паклонскі быў яшчэ з Хмяльніцкім у Кіеве. І толькі 22 ліпня Паклонскі ўрэшце зьявіўся ў царскім абозе пад Смаленскам і ў гэтым-жа самым дню быў прыняты царом на ўрачыстай аўдыенцыі. Тыдзень пазьней, 29 ліпня Паклонскі атрымаў грамату, якая, разам з тытулам палкоўніка, давала Паклонскаму права тварыць сваё войска на той тэрыторыі, якую ён у той ці іншы спосаб здабудзе.

Тут трэба зазначыць, што для цара значаньне новапаўстаючай арміі Паклонскага ляжала ня толькі ў плошчы мілітарнай, колькі сымбалічнай, паколькі заданьнем Паклонскага было ня столькі штурмаваць поруч з маскалямі літоўскія замкі, колькі пры помачы прапаганды перацягіваць гарады й людзей на свой бок і гэтым зьмяншаць колькасьць маскоўскіх актыўных ворагаў. У інтарэсах-жа самога Паклонскага бязумоўна ляжала, каб стварыць сабе як мага мацнейшую армію, на якую можна было-б аперціся, як на прыбочную гвардыю, іншая справа, што цар напэўна ня быў аж так дурны, каб настолькі давяраць нейкаму Костку Паклонскаму, каб сапраўды пазволіць яму стварыць такую сілу, якая-б маскалём магла-б стаць косткай у горле.

У гэтым часе сытуацыя на тэатры ваенных дзеяньняў выглядала наступна: на поўначы ў маскоўскіх руках знаходзіўся **Полацак**, Віцебск усё яшчэ бараніўся, галоўная маскоўская армія стаяла пад нездабытым яшчэ Смаленскам, на поўдні Залатарэнка стаяў пад нездабытым яшчэ Гомелям, нешматлікая літоўская армія гэтмана Радзівіла білася яшчэ каля Воршы з маскоўскай авангардай.

Паклонскі зь невялічкай колькасьцю людзей, выйшаўшы з-пад Смаленску ў кірунку на родны Магілёў, 6 жніўня прыбыў у Радомль, у гэтым-жа дню яму здаўся і горад Чаўсы. Тут ён набраў у свой полк звыш 1000 сялян. Паколькі аднак сяляне гэтыя былі вайскова неперашколеныя і бяз зброі, баёвая вартасьць іх навет як прыбочнай гвардыі была ўсё-ж ніякая. Тыя-ж людзі, на якіх Паклонскі найбольш разьлічваў, а гэта шляхоцкія ягоныя аднадумцы, з увагі на спозьнены паварот Паклонскага, яго не дачакаўшыся, ужо паразьбягаліся.

24 жніўня Магілёў адчыніў свае вароты Паклонскаму. Гэта была першая вялікая ўдача Паклонскага, першая і апошняя.

З Радамля прыходзілі няцікавыя весткі. Шляхціч Багдан Іваноўскі, якога Паклонскі пакінуў там паветавым начальнікам, пісаў яму, што маскоўскія загоны кажны дзень прыходзяць з пад Смаленску, грабяць і палюць усе навакольныя вёскі, а сялян бяруць у палон. Зьнішчаны сёлы: Тысяжа, Валымер, Тухолдава, Расна, Дзянішкі, Вярба, Нямірская, Ропцы, Жатаў, Каменка, Затон, Макрэдзі, Шчагатоўка, Луконь, Пуцкі, Бынава, Зеліва «і ізь іных сёл ня мала без астатку забрана ў палон.» Сам Іваноўскі ня быў пэўны заўтрашняга дня і жаліўся Паклонскаму, што мусіць «прыдзецца пагінуці».

Такім чынам, ужо на пачатку было ясна, што тэрыторыя, якая паддавалася пад уладу Паклонскага, нічуць ня была праз гэта забясьпечана ад маскоўскага зьверства. Паклонскі, хоць і стаўся квіслінгам, ня мог аднак стацца пратэктарам насельніцтва, бо ягоная армія, якая адна магла-б зрабіць гэта, складалася зь людзей, што самі шукалі пратэкцыі для сябе і сваіх сем'яў у Паклонскага і, не знаходзячы яе, пры першай нагодзе разьбягаліся.

На пачатку верасьня ў Магілёўшчыне паказаліся першыя казакі з арміі Залатарэнкі, якія адразу адносна мясцовага насельніцтва захаваліся ня лепш, як і маскоўскія вызвольнікі. Паклонскі ня чуючыся сам бясьпечна, зьвяртаецца да цара з просьбай прыслаць яму аддзел маскоўскага войска для абароны Магілёва перад Залатарэнкам. 7 верасьня цар, даючы прыказ князю А. Трубэцкаму пасланць у Магілёў маскоўскіх стральцоў, пісаў яму:

«Присылает де в Могилев из-под Быхова наказный наш гетман Иван Золотаренко к полковнику к Костентину Поклонскому, и в листах пишет з великими угрозами и хочет де его убить, рнясь тому, ево полковниковою к нам службою Могилевцы нам великому государю добили челом и город сдали; а Чаусы и Могилевский уезд запорожские казаки воюют и в полон имают;и он де полковник о том писаць к нам не успел, велел бити нам челом словесно, чтоб нам пожаловать, велеть прислать ратных людей в Могилев для береженья.»

Іван Холмскі («Історія України», накладом Наукового Товариства ім. Шевченка, Мюнхен, 1949, б. 210) піша:

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

Ох! Як пачне калі што руйнавацися, —
Што не рабі ты, а будзе дарма.
Толькі зьнядужаеш, сілаю страцішся,
Скуткаў-жа добрых няма.

Сын у Сібір, ці яшчэ за Сібірамі,
Недзе пайшоў на жыцьцё зарабляць,
Разам з дачушкай пайшла я пад дзьверамі
На пагарэлых зьбіраць.

Дочка ад часу пажэжы праклятае
Чымсь захварэла, няведама чым;
Сохла, бляднела, як зельлейка сьцятае,
Покуль ня ўмерла зусім.

З воласьці мела паперу пісаную:
Сына Маскаль занівоўта забіў.
Нечым зграшыла дзіцятка рахманае,
Ціхі-ж, паважлівы быў...

Вось і жыву я на сьвеце зязюляю
Тэй сіратлівай, адна наўсягды.
Сьмерць неўздалечку, — савой век
перамуляю,
Збудуся цяжкай нуды».

Змоўкне, — і сьлёзы па твары
пакоцяцца, —
Хусткай сьхісьне іх і далей брыдзе.
Ціха ступае, ўсім сэрцам калоціцца...
Ах! пашкадуйце ў бядзе!

Дайце кавалачак хлеба ёй цьмянага,
Дайце пуховага! Дзе-ж ёй узяць?
Што яна возьме з жыцьця бесталаннага?
Дайце, што можаце дадзь!

Дайце куточак, а дайце-ж ёй, мілыя!
З ласкай у хату прымеце яе, —
Хай адпачне гаратніца пахілая,
Раны пагоіць свае.

### СЫН

Гэй, у чыстым полі ды ня сонца грэе,
Ды ня сонца грэе, ды ня вецер вее,
Ня туман спусьціўся,
Ня дубок сьхіліўся.

На шырокім полі, ды на тым прасторы,
Ля дарогі самай, на зялёным згоры
З ног дзяцюк зваліўся,
Бразнуўся, пабіўся.

— Ці-ж ня сорам, хлопча, табе маладому?
Ганіць будуць людзі, едучы дадому:
«А ты-ж маладзенькі,
Піці нядужэнькі!

— Ой, ня ганьце, людзі, — з гарэлкай
ня знаўся, —
Я у сьвет далёкі за шчасьцем пагнаўся
Ад радзімай маткі
Ды ізь беднай хаткі.

Ды па ўсёй зямельцы, дзе шыбае вока,
І пад самым небам, доле тож глыбока
Быў я, цікаваўся,
Шчасьця прыглядаўся.

Не памеў я шчасьця, ды пазнаў я гора
І крыві разьлевы, сьлёз сіроцкіх мора.
Скрозь а скрозь гарота,
Дзе ні глянь, — маркота.

І падумаў зноў я да хаты вярнуцца
Ды да роднай маткі к сэрцу прыгарнуцца.
Рукі цалаваці,
Сьлёзы праліваці ,
Каб прыняла сына свайго — валацугу,
Каб прыпеставала, адагнала тугу,
Зельлейкам паіла,
Раны пагаіла.
Вось ня маю сілы, ня трымаюць ногі,
Раптам занядужаў, паў каля дарогі.
Знаць, — ня ўбачыць маткі,
Не дайсьці да хаткі!

### ЖУРБА Й СЬМЕХАЦЦЁ

— Брынкні, хлопча малады,
У свае цымбалы!
Ты-ж бо, чуў я ад людзей,
Музыкант удалы.
Песьняй ёмкай зьвесялі, —
Заплачу двузлотку.
Хочаш? Выпі напярод,
Спагані ахвотку!

— Раз журба зь сьмехацьцём
Напіліся мёду
І пайшлі на кірмаш
Паглядзець народу.
Вось журба й завяла,
Нясуцешна плача;
Сьмехацьцё-ж ля яе
Па дарозе скача.
— Гэй, сястрыца, пакінь
Разьліваці сьлёзы,
Бо цябе-ж засьмяе
Чалавек цьвярозы.
А-ха-ха! хі-хі-хі!
Ну, чаго, сястрыца,
Не стае тут табе?
— Перастань дурніца!
— Не сьмяшы ты людзей,
А давай паскачам!
А журба яшчэ горш
Залілася плачам.
— А-ха-ха! — І-ы-ы!
Па дарозе льлюцца;
Йдуць журба зь сьмехацьцём,
А людцы сьмяюцца.
Вось журба і крычыць:
— Прэзь цябе выкпіны!
Сьмехацьцё-ж у вадказ:
— Не, васпані віна!
— Праз цябе! — Праз цябе!
Увайшлі у спрэчку,
А ўканцы пачалі
Малаціць грэчку.
Тут камар падляцеў:
— Кум з кумой дзярэцца?
І пачаў ля журбы
Акругом вярцецца.
То у нос, то у лоб
Джыгане-уп'ецца;
Вось журба і наўцёк,
Бо няма дзе дзецца.
Сьмехацьцё-ж не бяжыць,
Здаганяць ня хоча,
А зь людзьмі над журбой,
Над дурной, рагоча.
Вось і ўсё. Калі хто
З вас журбу пабача,
Дык настрашце яе
Камаровым плачам.
Уцячэць! А цяпер —
Заплаці двузлотку
І кілішачак дай
Прамачыці глотку.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## Разьвітаньне Добрага Пастыра

У нядзелю, 5 лютага, верныя БАПЦ Англіі разьвітвалі свайго вельмі цэнянага душпастыра, адміністратара Вікарыяльнай Управы БАПЦ на Вял. Брытанію, прот. Аляксандра Крыта. На цэлы месяц прысьпешаны выезд а. Аляксандра ў Кліўленд скамплікаваў прыгатаваньні, аднак беларускія арганізацыйныя здольнасьці ды характэрная Беларусам салідарнасьць у паважных сытуацыях справіліся бліскуча з заданьнем.

Свая каплічка ў Беларускім Доме аказалася за малая. Прыгожая Царква англіканская Брадфорду напоўнілася дэлегатамі верных беларускіх асяродкаў, энтузыястымі адданага душпастыра й грамадзкага дзеяча, гасьцьмі й прыяцелямі. Спатканьні, знаёмствы і жаль за страту шчырага прыяцеля...

Саборнай Літургіяй кіраваў сам прот. Аляксандар; саслужвалі: прот. др. Аўген з Бэльгіі, а. Міхаіл, УАПЦ з Брадфорду і дыякан а. Канстанцін, УАПЦ, з Гэліфэксу. Прот. Захар Полякоў, дэкан Казачага Дэканату ў Англіі кіраваў хорам, за які яму вялікае дзякуй, бо міма няпоўнага складу яго, такое чысьціні й гармоніі пяяньня рэдка пачуць у нашых цэрквах на чужыне.

Вельмі ўзрушаны разьвітваў а. Аляксандар сваю паству й прыяцеляў. У простых словах адчувалася вялікае дасьветчаньне душпастырскага кантакту зь вернымі, знаньня іх і прыязьні.

Ад імя верных БАПЦ кантынэнту і Вял. Брытаніі разьвітваў Добрага Пастыра прот. др. Аўген. У другой частцы свайго слова зьвярнуўся а. Аўген да верных, заклікаючы іх да рэалізацыі ў вадсутнасьці а. Аляксандра ў Англіі дзьвюх характэрных рысак хрысьціянства: аптымістычнай надзеі на будучыню й чыннай удзячнасьці. У саслужэньні ўсяго духавенства а. Аўген адслужыў Малебен на шчасьлівае падарожжа ды прапяяў многалецьце.

Аўтар гэтых радкоў прысутнічаў на душпастырскім разьвітаньні а. Аляксандра зь вернікамі і быў незабыўна ўзрушаны сардэчнасьцяй і прастатою яго, бязь ніякай тэатральнасьці, чужой характару гэтага сьвятара.

Грамадзкая частка разьвітаньня адбылася ў вялікай залі Беларускага Дому ў Брадфордзе. У ясным сьвятле красаваліся доўгія сталы ўстаўленыя у літару Т, накрытыя і прыбраныя любячай рукою незаступнай вялікай прыяцелькі Беларусаў Брадфорду Місіс Проктэр і яе прыяцелькаў. Накрыцьцё гэтае магло канкураваць з прыняцьцем у палацы, а з кажнае талеркі й вазы прамаўляла тое, чаго ня можна набыць за грошы, ні аддзякаваць славамі... Новае, ці чужое вока, асталося спэцыяльна ўражлівым на праяў гэтай прыязьні чужынцаў да нашай грамады і адзінкаў у Брадфордзе.

Заля выпаўнілася Беларусамі і шматлікімі чужынцамі, гасьцьмі, часткова былымі парахвіянамі а. Аляксандра.

Сэанс разьвітаньня адчыніў сп. П. Паўлоўскі, новы адміністратар Беларускага Дому. Потым чаргаваліся шматлікія прамовы й тосты. Зь іх падчыркнем разьвітальнае слова а. прот. Захара, дэкана казацкага, ды палкоўніка казацкае станіцы, дзякуючых а. Аляксандру за духоўнае абслужваньне Казакоў у В. Брытаніі, за прыязьнь і вернае супрацоўніцтва.

У радзе разьвітваючых дэлегатаў беларускіх асяродкаў спэцыяльную ўвагу прысутных, а спэцыяльна аматараў фатаграфіі, затрымала група, апранутая ў беларускую народную вопратку, зь дзеткамі, якая падала а. Аляксандру адумысловы разьвітальны адрыс з подпісамі б. вернікаў і прыяцеляў.

Кульмінацыйным пунктам сэансу было бязумоўна слова самога а. Аляксандра. Пасьля прыяцельскага разьвітаньня з а. прот. Захарам, наступіла ўзрушаная хвіліна падзякі сп. Проктэр, Ангельцы, якая бязінтэрэсоўна сачыла за патрэбамі так душпастырскай працы, як і асабістага здароўя а. Аляксандра, аказваючы чыста хрысьціянскую любоў, ахвярнасьць, характэрную толькі жанчынам, фанатычна рэалізуючым высокую ідэю дапамогі бліжняму. Потым чаргова дзякаваў і адказваў а. Аляксандар усім асяродкам беларускім у Англіі, прыпамінаючы хвіліны спатканьня, цяжкасьці і супольныя сукцэсы, прыпамінаючы аб належнай вернасьці мэтам і ідэялам так царкоўным, як і нацыянальным.

З кароткіх слоў і ўспамінаў, ськіраваных да групаў ці паадзіночных асобаў, вынік абраз вялізарнай працы, праробленай адной асобай, сьвятаром, на ніве ня толькі рэлігійнай, але і грамадзкай і сацыяльнай, у ўмовах матарыяльных, як ведама, цяжкіх.

Прот. др. Аўген падчыркнуў гэты факт у дзеяньні ад'яжджаючага сьвятара і грамадзкага дзеяча, выцягваючы лягічныя кансэквэнцыі для тае грамады верных і Беларусаў, якія астаюцца ў Англіі і маюць прадоўжаць хоць частачку праробленай працы. Айцец Аўген знайшоў вельмі важным заакцэнтаваць факт прысутнасьці вялікае колькасьці чужынцаў і прыязныя суадносіны зь імі. З радасьцяй сьцьвердзіў прамоўца факт, што тут у Англіі, як і ў Бэльгіі, кантакт сьвятара з праваслаўнымі і чужынцамі ня ведае ніякай нацыянальнай мяжы, што ён рэалізуецца ў духу хрысьціянскай еднасьці і любові бліжняга.

У руках паваж. а. Аляксандра, сказаў прамоўца, знайходзіцца ліст Паляка, якога некалі а. Аляксандар у час крытычны прыняў быў у Беларускі Дом. Сяньня, даведаўшыся аб ад'езьдзе а. Аляксандра, а будучы сам хворым, напісаў гэты сардэчны ліст, выражаючы ўдзячнасьць і добрыя жаданьні.

Жаданьнем шчасьлівага падарожжа і плённай працы на новым месцы, а. Аляксандру, закончыў а. Аўген сваё дапаўняючае слова.

Адсьпяваньнем Малітвы «Магутны Божа» закончылася афіцыяльная частка разьвітаньня ды пачалася сяброўская.

Сп. Лашук пільна сачыў зь мікрафонам і удала зарэгістраваў урачыстасьць.

**Прысутны**

У сыботу, 11-га лютага для Кліўленду быў радасны дзень, на які даўно чакалі. На лётнішчы а 3,55 гадз. папаўдні дэлегацыя ад усіх грамадзкіх арганізацыяў і цэлая Царкоўная Рада сустрэла свайго дарагога й заслужанага а. Александра Крыта, які пераехаў з Англіі на настаяцеля ў Кліўленд.

Старшыня Царкоўнае Рады сп. М. Гумен прывітаў а. Александра ды пазнаёміў зь іншымі. Айцец дзякаваў за такое масавае спатканьне ды запэўняў, што ўсё зробіць, што будзе ў яго сілах, каб прыход павялічаўся й мацнеў, ды будзе разам маліцца за шматпакутны народ і паняволеную Бацькаўшчыну.

Пасьля зрабеньня зьнімкі тры машыны рушылі да кусочка беларускае зямлі, дзе стаіць Дом і новапабудованая Царква Жыровіцкае Божае Маці. На парозе Беларускага Дому сустрэў айца Царкоўны Стараста сп. М. Страпко, які таксама горача вітаў і дзякаваў, што айцец не адмовіўся ад пераезду ў Кліўленд. У Доме жанчыны прыгатавалі стол, каб пачаставаць айца ды падзяліцца ўражаньнямі.

На другі дзень у нядзелю а. Александар адправіў першую Багаслужбу з а. Яфімам — дасюлешнім настаяцелем, і протодзіяканам а. Калістратам. Царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага яшчэ больш урачыста й прыгожа сьпяваў. Глыбока рэлігійная пропаведзь а. Александра запала ў сэрцы вернікаў. За прыкладам айца, усе маліліся зь вялікім пачуцьцём ды дзякавалі Ўсемагутнаму, што Ён дапамог дайсьці да такіх дасягненьняў. Цяжка цяпер параўнаць да пачаткаў 1951 г. Цяпер ёсьць прыгожая Царква, добры хор і настаяцель, ды не малая група й парахвіянаў. Ведаючы рэлігійнасьць і ахвярнасьць а. Александры Крыта, трэба спадзявацца, што прыход заквітнее яшчэ больш і ніхто ня здоляе перашкодзіць гэтаму, штоб ворагі не рабілі.

Пасьля Багаслужбы адбыўся банкет на чэсьць прыезду айца. Тут прамаўлялі: старшыня Царкоўнае Рады сп. М. Гумен, ад парахвіянаў Казакаў сп. Кашкадаеў, ад сэктару БНР сп. В. Семянчук, старшыня Аддзелу БАЗА сп. Ю. Гасьцееў, старшыня Жаночага Згуртаваньня сп-ня К. Каляда, дырыгент сп. К. Кіслы і інш. Усе віталі айца з прыездам, а таксама падкрэсьлівалі заслугі дасюлешняга настаяцеля а. Яфіма, які шмат спрычыніўся да разьвіцьця прыходу. Айцец Александар з свайго боку дзякаваў за такое прыняцьце і гарачыя словы ды запэўніваў прыхаджанаў, што будзе рабіць, што будзе магчыма для дабра прыходу й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

*

12-га лютага адбыўся чарговы міжнародны фэстываль, які кажнага году ладзіць арганізацыя народнага мастацтва і газэта «Кліўленд Прэс». На фэстывалі выступала 17 нацыянальнасьцяў. Кліўлендзкі Аддзел БАЗА прыняў удзел таксама. Два танцавальныя гурткі пад кіраўніцтвам Мані Лук'янчык выканалі два танцы пад музыку Олі Дубаневі — акардыён і Колі Стрэчэня — гітара. Беларусы, як заўсёды, занялі адно зь лепшых месцаў. Пажадана-б было выступаць больш масава, бо на вялікай сцэне малая група губляецца і сцэна выглядае пустая.

**Ул. Д.**

# Пачатак кар'еры Канстантына Паклонскага

(Заканчэньне з 3-яе бачыны)

«Українські війська, під проводом полковника Золотаренка, що ввійшли на Білу Русь як допомога московським силам, здобули багато білоруських міст, але вони піддавалися не на царське ім'я, а під гетьманську владу. Білоруси, яких з українцями еднала культура і спільна оборона православної віри, воліли бути в політичних зв'язках з Україною, ніж підлягати Москві.

«Таким способом територія Української Держави поширилася далеко на захід і північ. Українська політика стреміла до того, щоб цю займанщину поширити ще далі і здобути спільний кордон з Прусією. Це забезпечувало б Україні власний шлях до Балтицького моря та комунікаційну лінію, незалежну від Московщини і Польщі.»

Вось-жа К. Паклонскі, сьціснуты паміж маскоўскім молатам і ўкраінскім кавадлам, і разьнюхаўшы ўрэшце, куды гэта маскоўская і «українска політика стреміла», 6 лютага 1655 году перайшоў з часткай сваіх людзей на бок літоўскай арміі «да мілай і залатой айчыны», дзе стаўшыся правай рукой пры гэтмане Я. Радзівіле, праславіўся, як арганізатар сялянскай партызаншчыны. Гэткім чынам гэтая вайна (1654-1667 гг.), якую сягоньня ў Менску баяцца назваць Вялікай Айчынай вайной, паступова, як і раней у Нямеччыне (у 1618-1648 гг.), з вайны рэлігійнай ператваралася ў нацыянальную.

Зь літоўскага абозу Паклонскі напісаў многа лістоў: да гэтмана Залатарэнкі, да сваіх колішніх казакаў, да магілёўскіх мяшчан, да знаёмых маскалёў і да розных сваіх прыяцеляў. Некаторыя гэтыя лісты былі адрасатамі перасланыя цару і дзякуючы гэтаму яны ў маскоўскім перакладзе перахаваліся да сяньня ў маскоўскім архіве.

У лісьце да І. Залатарэнкі Паклонскі пісаў:

«... разумел есми, что та война имела быти на освободжение утисненной руси, или восприяти потеху, яко от государя християнского; ажно вместо полученья такое ж лупление домов Божиих, что и от Татар бывало: християн наших, которые в повседневном гонении от униятов пребывали, ныне их в вечную неволю забрали, а иных помучили.»

Да нежынскага пратапопа:

«Ведомо вашей милости, какое право Смоленску надавали, а ныне всех на голову в неволю загнали; и с иными местами такое ж действо соделали. Так и нам, которые есмы в Могилеве пребывали, обецевали учинить; а что вяшше, духовных наших в каком почитанье имеют, насмотрелися есьмя над кутеинскими отцы, как над ними чинили, в церкви престолы сами одирали и все украшение церковное до столицы отослали, а самих черньцов в неволю загнали, где с кручины святый отец игумен Иоиль умер. А что о его милостью отцем митрополитом и с иными духовными чинят жаль; адноличнo вместо лучьшего в пущую горейшую неволю впали есьмя было; для чего волим уже ныне в шелашах пение свое имети, нежели в златых церквах и в такой неволе у них пребывати... А своей отчины не отрекайся.»

Аглядаючыся назад на сваю дасюлешнюю кар'еру, як квіслінга, Паклонскі ўсё-ж гэтага не шкадаваў і ня стыдаўся. Бо як-бы там ня было, але ягоны родны Магілёў, найбагацейшае пасьля сталічнай Вільні места ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзякуючы якраз яму ня быў разграблены й спалены ўкраінскімі казакамі.

Першага лютага 1661 году маскоўскі семтысячны гарнізон у Магілёве быў урэшце зьнішчаны магілёўскімі мяшчанамі. У гэтым часе на нашай зямлі ўжо ня было ніводнага ўкраінскага казака. Наказны гэтман Іван Залатарэнка быў сьмяротна ранены яшчэ ў 1655 годзе пад сьценамі гэраічнага Старога Быхава. Дата-ж сьмерці Канстантына Паклонскага ў дакумантах не захавалася.

**Часлаў Будзька**

# Сёе-тое

(Заканчэньне з 1-ай бачыны)

У сувязі з гэтым паўстае колькі пытаньняў:

1) Ці рабіць рэгулярную сустрэчу ў 1962-м годзе?

2) Ці рабіць спэцыяльную сустрэчу для ўшанаваньня 100-й гадавіны Паўстаньня ў 1963-м годзе, ці перанесьці рэгулярную сустрэчу на год пазьней і лепш яе падрыхтаваць?

3) У залежнасьці ад адказаў на два першыя пытаньні паўстае трэйцяе:

дзе, у якім маштабе й калі рабіць сустрэчу для ўшанаваньня вялікай гадавіны?

Неабходна, каб гэтыя й іншыя, зьвязаныя з асноўнымі, пытаньні, пачалі нашымі амэрыканскімі й канадыйскімі арганізацыямі абмяркоўвацца ўжо цяпер. Часу астаецца ня так многа.

Управы БАЗА і ЗБК, ды іншых, зацікаўленых арганізацыяў, слова за вамі.

**Міхась Козыр**

*Замест фэльетону*

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

### ДА КАРЭСПАНДЭНТА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» Ў БЭЛЬГІІ

**Вельмі Паважаны Спадару Хацяновіч!**

Прашу выбачыць, што трохі спазьніўся й змусіў Вас чакаць на мой адказ. Зайшла невялічкая памылка з Вашага боку. Я не зьяўляюся карэспандэнтам і пішу да Вас толькі таму, што Ваш «Адказ Карэспандэнту ў Аўстраліі» фактычна ёсьць адказам мне — Міхасю Перапечцы. Вельмі мне прыкра, але-ж, нажаль, я ў ніякім выпадку не магу мець гонару быць Вашым сябрам. Вы, Паважаны Спадару Сьцябло..., выбачайце, Хацяновіч (вось заўсёды я пераблытаю прозьвішчы, гэта мая найвялікшая загана — прашу выбачэньня), у сваім «Адказе» болей падаеце інфармацыі зь беларускага жыцьця Амэрыкі й Аўстраліі, а зусім мала з жыцьця Бэльгіі. Але гэта нічога, добра й гэта, і просім Вас — пішыце, хоць і алаўком, але пішыце! Аўстралійскія Беларусы будуць Вам вельмі ўдзячныя й за гэта.

Наступна па магчымасьці коратка пастараюся адказаць Вам на парушаныя Вамі справы, што датычаць Аўстраліі. Тут ёсьць тры дзейныя прыходы БАП Царквы й на мінулыя Каляды адбыўся (другі з чаргі) Эпархіяльны Зьезд, аб якім наш карэспандэнт напэўна паведаміў «Бацькашчыну» і Вы ў хуткім часе будзеце аб гэтым чытаць (а можа ўжо прачыталі).

Гэта яшчэ поўбяды, калі Беларусы ўводзяць часткава чужыя словы ў сваю мову, гэтая загана ўласьцівая ўсім нацыям, а ня толькі нам. Горш, калі тыя Беларусы, якія мелі звычай кідацца іншым у вочы, закідаючы нястачу актыўнасьці й адданасьці беларускай справе, паказалі, што ім непатрэбная беларуская царква, а дзецям іхным — беларуская мова. Гэта Беларусы з аднаго гнязда, і Вы, Паважаны Спадару Сьцяблакуно..., выбачайце, Хацяновіч, запытайцеся Вашага сябры, што прыехаў з Аўстраліі, ён напэўна іх добра ведае.

Калі Вы пільна чытаеце «Бацькаўшчыну», дык павінны былі заўважыць, што нашыя аўстралійскія кальпартэры ніколі не падаюць у газэту ніякіх абвестак-заклікаў у справе сплаты за газэту. Гэта найлепш сьветчыць аб тым, што Беларусы Аўстраліі вельмі салідны народ, а Вы маеце аб іх кепскія інфармацыі.

Вашыя прэтэнсіі да тых Беларусаў, якія нібыта ўжываюць звароты «містэр» і «пан», лічу вылучна Вашым асабістым непаразуменьнем зь імі.

Вельмі мне, Міхасю Перапечцы, прыемна, што Вы выказваеце зацікаўленьне праявамі й падзеямі беларускага жыцьця на эміграцыі. Моцна цісну Вашую руку й прашу супольна рухануць зь месца наступную праблему.

Заходжу я, прыкладам, у хату да Паляка. Бачу на покуце вісяць польскія каталіцкія абразы, на століку стаіць крыж, ляжыць кніжка да набажэнства, на сьцяне вісіць «Ожэл Бялы». Заходжу да Ўкраінца — на покуце абразы з ручнікамі, на сьцяне Трызуб, патрэт Шаўчэнкі, на стале малітоўнік і іншыя ўкраінскія кніжкі. Заходжу да Расейца — на покуце рад расейскіх праваслаўных абразоў, вісіць лямпада, на сьцяне патрэт цара Мікалая. Ну, узапраўды, гляджу я на ўсё гэта й душа радуецца — усе яны маюць сваё сьвятое, роднае, дарагое. А ў нашых беларускіх хатах, як у хлявох, — нічога! Зарубежнікі дык маюць усё расейскае, а мы проста нічога!

Нашыя праваслаўныя духоўныя ўлады занятыя палітыкай і на працягу дзесяцёх гадоў не знайшлі яшчэ часу заняцца апрацаваньнем і выданьнем малітоўніка й праваслаўных абразоў. Каб навучыць сваіх дзяцей беларускіх малітваў, мы змушаныя карыстацца выдаваным беларускімі ўніятамі часапісам «Божым Шляхам» і вельмі ўдзячныя ім, бо праваслаўнае духавенства й гэтага нам даць ня хоча.

А чым-жа фактычна заняты наш Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, што ня можа да гэтага часу выдаць нашага дзяржаўнага гэрбу — Пагоні?

Я прашу выбачыць мне, я асабіста не хачу нікога ніўчым упікаць, я толькі пішу ад імя Беларусаў у Аўстраліі, калі можна так сказаць, ад імя народу. А народ — гэта ўсё!

Напасьледак, каб узноў-жа заахвоціць нашых карэспандэнтаў да «стваральнае» працы, падам нешта з нашага аўстралійскага жыцьця. Вадзірэі нашага зарубежжа праз увесь час трымаюць лістоўную лучнасьць із здрадзіўшым Беларусаў япіскапам Апанасам (ён у Аргентыне) і вельмі ганарацца тым, што падносяць ягоны аўтарытэт сярод Расейцаў, даючы яму довады таго, што ён не парваў лучнасьці зь беларускім народам і што толькі моў «якіясьці Крывічы» супраць яго. Нашыя зарубежнікі былі вельмі ўсьцешаныя, калі прачыталі ў аргентынскім «Русским Слове», што япіскап Апанас у студзені 1960 году вельмі ахвотна адведаў расейскі скаўцкі лягер «Русь» каля гораду Лукан. Яго там спатыкалі з хлебам і сольлю на «художественном блюде с российским двуглавым орлом», а скаўты ўзрадавалі ўладыку песьняй «Слава вере православной, слава русскому царю». Гэта ўсё так спадабалася япіскапу Апанасу, што ён праз тыдзень яшчэ раз наведаў той лягер.

Гаворачы пра япіскапа Апанаса, мне заўсёды прыпамінаецца мянушка, якую яму даў Р. Астроўскі. Гэта было ў тыя часы, калі япіскапы адыходзілі ад Беларусаў да Расейцаў, а Астроўскі вылез з укрыцьця й пачаў актывізавацца. Ён назваў тады япіскапа Апанаса «неякае междаметие».

Застаюся гатовы да ўслугаў, шчасьлівы, што маю гонар выказаць Вам сваё глыбокае паважаньне

**Міхась Перапечка**

**Аўстралія**

### УВАГА, ПАДПІШЧЫКІ ЗША!

**Гэтым папярэджваюцца й просяцца мае падпішчыкі газэты «Б-на» ў Амэрыцы, а таксама й асабліва ўсе падпішчыкі ў ЗША, якія газэту атрымоўваюць беспасярэдна зь Мюнхэну як лётнай, так і звычайнай поштай, урэгуляваць падпісную аплату 1961 году й залегласьць зь мінулых гадоў, пераказваючы грошы па адрасу:**

**Mr. B. Danilovich**
**303, Howard Str.**
**New Brunswick, N. J.**

### УВАГА, УСЕ ПАДПІШЧЫКІ «Б-НЫ»-

**Гэтым папярэджваюцца й просяцца ўсе падпішчыкі «Б-ны», асабліва тыя, якія газэту атрымоўваюць беспасярэдна зь Мюнхэну, урэгуляваць падпісную аплату 1961 году й сваю залегласьць зь мінулых гадоў, пераказваючы грошы нашым прадстаўніком (абавязкава, калі газэта атрымоўваецца праз іх) або беспасярэдна на нашае конто ці на адрыс газэты (у выпадку паштовых пераказаў).**

Нашае конто:
Zeitung „Baćkauščyna“
Konto № 357-125
Bay. Hypotheken- u. Wechselbank
München, Deutschland

Адрас газэты:
Weißruthenische Zeitung „Baćkauščyna“
(„Das Vaterland“)
München 19, Schließfach 69
Deutschland

### ДА ЧЫТАЧОЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» Ў КАНАДЗЕ

Чытачоў «Бацькаўшчыны» ў Канадзе, што залягаюць з аплатаю за газэту, прашу як мага хутчэй пагасіць задоўжанасьці. Высыланьне па некалькі лістоўных прыпамінаньняў даўжніком займае шмат часу, якога ніколі не хапае. Дзеля таго, Паважаныя Чытачы, будзьце ласкавы рэгуляваць Вашы задоўжанасьці па сваей ініцыятыве. За гэта згары Вам дзякую.

**К. Акула**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.